# ІВАН ЛУЦКЕВІЧ

## у 35-ую гадавіну сьмерці

**35 год таму назад — 20 жніввеня 1919 году — заснуў вечным сном адзін з найбольш ахвярных і вялікіх Беларусаў — Іван Луцкевіч, агульна прызнаны тварцом беларускага адраджэнскага руху. Беларусь на сваім нацыянальна-вызвольным шляху шмат мела адданых да бязьмежнасьці роднай справе змагароў, шмат якія зь іх даканалі для народу вялізарных рэчаў, але ня вельмі шмат было такіх, якія маглі-б заняць такое самае месца ў гісторыі нашага адраджэньня, якое заслужана прыпала Івану Луцкевічу.**

**Бесьперапынная нацыянальная дзейнасьць Івана Луцкевіча пачынаецца ў 1902 годзе і цягнецца даслоўна да самай ягонай сьмерці ў 1919 годзе. На працягу гэтых, так плодных для беларускага адраджэнскага руху сямнаццацёх год, ня было ніводнай буйнейшай падзеі ў нашым нацыянальным, палітычным і культурным жыцьці, ініцыятарам якой ня быў-бы Іван Луцкевіч або якая ня была-б звязаная цесна зь ягоным імем.**

**Ён зьяўляецца адным з закладчыкаў заслужанай беларускай палітычнай арганізацыі «Беларуская Рэвалюцыйная Грамада», якая паўстала ў 1903 годзе і на працягу гадоў узначальвала беларускі адраджэнскі рух. Будучы пасланым ад імя гэтае арганізацыі на зьезд сацыялістычных партыяў у Фінляндыі ў 1905 годзе, ён першы выводзіць Беларусь на міжнародную арэну. Пазьней, прыймаючы актыўны ўдзел на розных іншых міжнародных канфэрэнцыях, ён на стала ўмацаваў беларускія міжнародныя пазыцыі.**

**Калі-ж пасьля рэвалюцыі 1905 году была скасаваная забарона беларускага друку, Іван Луцкевіч падае ініцыятыву выдаваньня беларускае легальнае газэты. Пры ягоным кіраўніцтве, актыўным супрацоўніцтве і коштах гэтак паяўляецца ў 1906 годзе першая беларуская легальная газэта «Наша Доля», а, пасьля хуткага закрыцьця яе царскім урадам, «Наша Ніва», якая пратрывала да 1915 году і стварыла цэлую эпоху ў беларускім руху, званую «нашаніўскай».**

**Іван Луцкевіч прыймае найбольш актыўны ўдзел як у нутрана беларускім палітычным жыцьці, гэтак і ў палітычных дачыненьнях з суседнімі нам народамі й іншанацыянальнымі жыхарамі нашага краю. Горача любячы свой народ, імкнучыся забясьпечыць яму правы гаспадара на сваей собскай зямлі, Іван Луцкевіч, як у васабістых дачыненьнях зь людзьмі, гэтак і ў палітыцы, быў заўсёды далёкім ад вузкага нацыяналізму. Ён гатоў быў супрацоўнічаць зь людзьмі розных нацыянальнасьцяў, якія не праяўлялі варожасьці да беларускага народу.**

**Ён прыймае ўдзел у гістарычным паседжаньні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году ў Менску і зьяўляецца адным з тварцоў векапомнага сакавіковага акту, якім Беларусь была абвешчаная вольнай і незалежнай дэмакратычнай рэспублікай.**

**1 лютага 1919 году закладаецца Першая Віленская Беларуская Гімназія, якая на працягу 25-ці наступных год, да паўторнае акупацыі нашае Бацькаўшчыны бальшавікамі ў 1944 годзе, была магутнай кузьняй нацыянальных кадраў нашае інтэлігенцыі і ўлюбленай «Альма Матэр» для нашае перадавое моладзі. Закладчыкам і адным зь першых настаўнікаў гэтае гімназіі быў Іван Луцкевіч.**



**Побач з нацыянальна-культурнай і палітычнай дзейнасьцю, Іван Луцкевіч, як археолёг, быў таксама выдатным навуковым дзеячом і старанным зьбіральнікам памятнікаў беларускае старасьвеччыны. Ягоная навуковая дзейнасьць была поўнасьцю пастаўленая таксама на службу Бацькаўшчыне, а найпрыгажэйшымі ейнымі дасягненьнямі было заложанае ім Беларускае Навуковае Таварыства ў Вільні, а зь ягоных багатых і цэнных калекцыяў Беларускі Музэй у Вільні, які пасьля сьмерці ягонай атрымаў імя свайго закладчыка.**

**Вось некалькі найважнейшых і далёка ня ўсіх нашых нацыянальных дасягненьняў дадзенае гістарычнае пары, якія поўнасьцю або ў пераважнай меры былі справай няўтомнай працы, безгранічнай ахвярнасьці й няштодзеннага таленту Івана Луцкевіча. За ўсё гэта ягонае сьветлае імя яго наступнікі й прадаўжальнікі ягонае працы запісалі залатымі літарамі на балонах гісторыі беларускага нацыянальнага адраджэньня.**



# Чаму Іван Луцкевіч не пакінуў па сабе пісьменных працаў

**(ЖМЕНЯ ЎСПАМІНАЎ)**

Летам 1944 г. дзеля ваенных падзеяў шмат Беларусаў-уцекачоў апынулася у Бэрліне і сярод аднае групы паўстала думка наладзіць 20-га жніўня акадэмію ў памяць Івана Луцкевіча ў 25-ыя ўгодкі ягонай сьмерці.

У часе падгатоўкі да мяне, што працавала ў Беларускім Камітэце ў Вільні падчас першае сусьветнае вайны разам зь Іванам Луцкевічам, зьвярнуліся з пытаньнем: «Чаму Іван Луцкевіч, які, як археолёг, добра знаў помнікі і гісторыю Беларусі, па сабе не пакінуў навуковых працаў?

Тады я зьбіралася даць адказ на гэтае пытаньне, але на жаль, акадэмія не магла адбыцца, нямецкая паліцыя у той трывожны час не дазволіла сабрацца Беларусам, дарма былі ўсе нашыя стараньні і праца. Цяпер у 35-ыя ўгодкі сьмерці Івана Луцкевіча я ўсё-ж хачу вярнуцца да гэтае тэмы.

Каб зразумець, чаму іншыя людзі ня выкарыстоўваюць сваіх здольнасьцяў і веды, то тутака трэба браць пад увагу ня толькі іх характар, але і абставіны іх працы і жыцьця.

Начну з апошняга. Жыцьцёвыя абставіны Івана Луцкевіча былі асаблівыя. Ужо вучнем ён загараецца да пазнаньня мінуўшчыны Беларусі. Хоць ён у 1902 г. паступае ў Пецярбурзе на юрыдычны факультэт, то адначасна вучыцца ў Археалёгічным Інстытуце. Ён працуе і ў нелегальных палітычных арганізацыях. І вось у 1903 г., у часе падгатоўкі першатравенскай дэманстрацыі, ён лучае ў рукі паліцыі і ў расейскую турму, дзе ён сядзіць праз усё лета і нажывае сабе сухоты, ад якіх ня вылячыўся і якія яго перадчасна зьвялі ў магілу. Але тады на гэта не зьвярнулі ўвагі. Іван Луцкевіч канчае ў 1904 г. Археалягічні Інстытут, едзе, каб удасканаліцца, у Вену, дзе працуе пад кіраўніцтвам вядомага праф. Ягіча ў «Сьлявішэ Сэмінар». Там ён навязвае знаёмства з украінскімі дзеячамі. Калі Іван Луцкевіч вяртаецца ў Пецярбург, каб закончыць свае юрыдычныя навукі, ён ня доўга там астаецца. Расейская рэвалюцыя 1905 г. дае шырэйшае поле да палітычнай працы і на Беларусі, ён увесь ёй аддаецца і застаецца пры ёй да самай сьмерці. У гісторыю беларускага руху Іван Луцкевіч перайшоў як адзін із самых актыўных працаўнікоў беларускай справы; ён будзіў жывым словам і асабістым уплывам сумленьне беларускага грамадзянства, і ўсюды ён бараніў, і ў краі, і заграніцай, права Беларусі на самастойнае жыцьцё. Ён быў **народным трыбунам Беларусі** ў найлепшым значэньні гэтага слова. Аб разнаякай працы Івана Луцкевіча ў беларускім жыцьці і руху гаворыцца ў брашуры: «Памяці Івана Луцкевіча ў першыя угодкі сьмерці яго», выдадзенай у Вільні ў 1920 годзе, да якой і адсылаю зацікаўленых.

Праца Івана Луцкевіча на беларускай ніве, і ў краі і заграніцай, дзе ён амаль першы выносіць на міжнародны форум беларускае пытаньне і выступае, як прадстаўнік Беларусаў — усё гэта вымагае ня толькі часу і працы, але і грошаў. Іван Луцкевіч із сваім арганізатарскім талентам ня толькі паклікае да жыцьця новыя беларускія пляцоўкі, але і фінансуе тыя, што паўсталі па ягонай ініцыятыве. Да гэтага належыць і газэта «Наша Ніва». Але скуль ён здабываў на ўсё гэта грошы? Невялікую спадчыну па бацьку, якая яму дала магчымасьць атрымаць вышшую асьвету, хутка паглынула ягоная грамадзкая праца.

У якіх цяжкіх абставінах Іван Луцкевіч і жменя ягоных сяброў па беларускай працы мусілі жыць і зарабляць, ведаюць толькі старыя людзі, якія могуць у думках, як я, перанесьціся ў пачатак 1900 гадоў. Тады на беларускі рух глядзелі, як на нешта недарэчнае; дзе там можна было знайсьці людзей, якія-бы фінансава яго падтрымлівалі, а ягоныя працаўнікі амаль усе ня мелі фінансавага заплечча і якіх колечы сталых даходаў ці заработнай працы, — гэта была ў бальшыні ідэёвая моладзь, што поўнасьцю аддалася пашырэньню беларускага руху. Памятаю, як пра Алёйзу Пашкевічанку (Цётка) з пагардай знаёмыя казалі, што яна здурэла, бо далучылася да беларускага руху. (Я яе знала па гімназіі.) Запраўды, трэба было мець вялікую любоў і ахвярнасьць, каб бачыць у працы дзеля адраджэньня беларускага народу заданьне свайго жыцьця. Гэта раўнялася вырачэньню асабістага жыцьця і дабрабыту.

Іван Луцкевіч, як археалёг, і прытым уздольнены, мог-жа лёгка знайсьці працу ў гэтым кірунку і з часам стацца прафэсарам і ахвяроўваць беларускаму руху толькі часіны вольныя ад службовых заняткаў. Але ён ня ідзе звычайнай жыцьцёвай сьцежкай, а ўвесь аддаецца беларускай працы. Ён жарам свайго перакананьня заахвочвае іншых да яе; ён арганізуе і кіруе, і аддае на гэтую працу ўсе свае грошы, што здабывае: ці як пасярэднік у гандлёвых трансакцыях із заграніцай, ці як сябра фінансавых прадпрыемстваў, а найбольш як антыквар. Праўда, апошнія гады перад вайной Іван Луцкевіч супрацоўнічаў у школе рысункаў Рыбанава і выкладаў гісторыю мастацтва, але гэта былі невялікія грошы, што там зарабляў. Ён, як археалёг, знаецца на старасьвеччыне, дзе ён можа, там выкупляе рэчы краёвай вартасьці для сваіх музэальных збораў і пры гэтай нагодзе купляе антыкі, каб іх потым за адпаведную цану прадаць. Але ўсё гэта робіцца прыпадкова, дарыўча, ён гэтым не займаецца, як запраўдны антыквар, бо на гэта няма часу. І вось усе свае грошы ён аддаваў на беларускую працу або таніў у свой музэй, як казала ягоная адданая слуга. Сам Іван Луцкевіч із сваім братам Антонам жылі надта скромна, гэта я сама бачыла. Паза працай грамадзкай Іван Луцкевіч быў змушаны траціць вольныя часіны на здабыцьцё грошаў. Калі ён часта зморавы вяртаўся дамоў із сваіх пошукаў антыкаў, а блізкія яму людзі прасілі яго памятаць аб сабе і сваім слабым здароўі, то ён адказваў: «Ваўка ногі кормяць». Аднак, калі да яго прыходзілі Беларусы, як да бацькі, у справах грамадзкіх ці асабістых і трэба было якуюсь дзюрку ў бюджэце латаць, то ён даваў свае апошнія грошы ці прадаваў свае антыкі, калі справа была пякучая.

Досыць трудна сабе прадставіць, калі ён меў вольную часіну, каб засесьці і спакойна заняцца навуковай працай. Ведаю, калі яму трэба было напісаць ліст ці палітычную адозву, або газэтную зацемку ці накінуць плян артыкулу, які потым апрацоўваў хтосьці іншы, на ўсе гэта ахвяроўваліся гадзіны сну і адпачынку, ён тады да глыбокай ночы сядзеў за пісьменным сталом. І праўда, у дзень ён ня знаў супакою; калі ён ня быў на людзях, то людзі ў яго, і з чым яны толькі ня прыходзілі! Але для ўсіх ён меў і раду, і добрае слова. Асабліва ахвоча ён памагаў іншым у навуковых пытаньнях, калі да яго зьвярталіся, і памятаю бібліёфіл Р. Зенкевіч, як і В. Ластоўскі былі ягонымі частымі госьцьмі і радзіліся ў яго. Калі Івану Луцкевічу казалі, чаму ён ня піша сам, а толькі другім памагае, ён адказваў: «Вы-ж бачыце, пакуль што я на гэта ня маю ні часу ні супакою». Потым, калі ён усё больш стаў западаць на здароўі і бачна было, што ён можа панесьці ў магілу свой скарб веды, усе нашыя просьбы ўзяцца за пяро былі дарэмныя. «Цяпер на гэта няма часу, але вось бачыце, сабіраю пры нагодзе матарыял, бо калі пісаць пачну, то гэта мусіць быць салідная навуковая праца, абапёртая на крынічным гістарычным матарыяле», — і ён паказаў захаваную ў бюрку пачку асобных лістовак, дзе былі выпіскі із старых рукапісаў, ягоныя думкі і зацемкі. (На жаль, гэтыя запіскі былі ў пачатку 1919 году пры вобыску забраны бальшавікамі.)

Іван Луцкевіч ня прыдаваў значэньня сваей хваробе, ён лічыў, што ягоная моцная натура яму дазволіць дажыць да сівых валос; а блізкія-ж яму людзі не маглі казаць у вочы, што зь ім вельмі дрэнна і што ягоны век кароткі.

**(Заканчэньне на 6-ай балоне)**

**Якуб Колас**

# Сымон Музыка

**ПАЭМА**
**(Працяг)**

6)

*
* *

— Гэй, Сымон! Сымон! ты чуеш?
Сонца ўжо ўзышло — пара!
Ці забыўся, дзе начуеш?
Час нам выбрацца з двара! —
Дзед жабрак прачнуўся рана,
Будзіць хлопца: — Уставай!
Хварэць нечага на пана,
Хоць падзяку людзям дай! —
І зьбірае дзед манаткі
Ды бубніць сабе пад нос,
«Дзе-ж ён дзеўся, небажаткі?
Куды прах яго панёс?»
— Эй, ты чуеш? дзе ты згінуў? —
І няма адказных слоў.
Дзед трывожна погляд кінуў:
— Мусіць зьбег, каб я здароў! —
І затросься дзед ад страху,
Думка мозг яго ажгла:
— «Абакраў, гад, і даў маху!» —
І сама рука лягла
На мяшэчак пад пахвінай,
Але цэл той вузялок.
І мысьленна прад хлапчынай
Тут пакаяўся дзядок.
«Але дзіва, што зь ім стала?»
Сам сябе стары пытаў.
А тымчасам сонца ўстала,
Промень першы завітаў
У гуменца з-пад шчыцінкі,
І ў палосцы залатой
Нязьлічоныя пылінкі
Закружыліся, як рой;
Пташкі-ластаўкі лятaлі
То на двор, то са двара
Над гнязьдзечкамі снавалі
І так міла шчабяталі,
Як-бы жычылі дабра.
Зьлез дзед з торпу ў замяшаньні.
«Дзе-ж падзеўся той Сымон?
Ці дзе ходзіць спазараньня,
Непаседа-ветрагон?»
Абышоў дзед двойчы клуню,
Клікнуў раз-другі — няма!
І напала на дзядуню
Неадчэпная дума:
«Кінуў хлопец яго, кінуў!
Эх, ня ўмеў зь ім ладзіць ён!»
І шкада яму хлапчыны —
Зьбег музыка, зьбег Сымон!
— А дзе-ж хлопчык твой, дзядуня?
— Няма, панюхна, няма
Ні за клуняю, ні ў клуні,
Вось шукаю, ды дарма, —
Ну, зьнік проста, як кампора...
Ой, праспаў яго, праспаў!
Ой-жа ліха, гора, гора!
Я бяз хлопчыка прапаў! —
Гаспадар сам вышаў з хаты,
Устрывожыўся ўвесь дом,
Абышлі ўсе клеці, спраты,
Аглядзелі ўсё кругом,
Нават зьбегалі к суседу,
Каб напасьці хоць на сьлед, —
Не знашлося нідзе сьледу,
Сіратою стаўся дзед.
— Ось, як-бы я страціў сына,
Так шкада, каб я здароў!
— Уцёк, дзедка, твой хлапчына
Да другіх гаспадароў! —

Ганна смутна і маркотна,
Яна думае аб ім:
Дзе-ж падзеўся ён, гаротны?
І куды пашоў? зачым?
І чаму ён не паведаў?
Хоць бы слоўка ёй сказаў!
Эх, нядобры хлопчык дзедаў, —
Сьвет дзяўчынцы завязаў!
А яна-ж аб ім гадала,
Думку марыла аб ім:
Ці-ж было-б тут сьвету мала?
Ён-бы й тут быў ня чужым.
Папрасіла-б яна тату —
Так напэўна-б і было, —
Каб яго прыняць у хату
Ці прыстроіць дзе ў сяло...
А мо' ён дзе сьпіць на сонцы
У садку за вішнячком?
Ёй надзеі ткуць красёнцы
Залаценькім чаўначком.
І дзяўчынка ў тэй надзеі
Ідзе ў сад, ідзе сама.
Але там, на сонцагрэі,
Пуста ўсё, яго няма!
Пуста ў садзе і журботна,
Як-бы страціў нешта сад,
Нават лісьцечка дрыготна
Шум вядзе на смутны лад.
А вось тут, пад гэтай грушай,
Ён сядзеў, а зь ім яна.
Ён тут сэрца ёй парушыў,
Вымаўляла тут струна.
Вышла Ганна на дзядзінец,
Сэрца сьціскае туга.
Унь у сьвет бяжыць гасьцінец,
Над ім сьцелецца смуга.
Навакол ляжаць прасторы,
Тчэ ім наміткі туман,
І замлелі ў хлебным моры
Хвоя тая і курган...
Знаць, ня вернецца ніколі,
Там чужыя рубяжы,
А на ростанях — таполі
Ды збуцьвелыя крыжы.
Куды-ж ён пашоў? куды?
Дзе ляглі яго сьляды?

Нікнуў зорак блеск халодны,
І сьвятлееўся неба край;
Лёгкі пар, туман усходны,
Апяразваў лес і гай;
А Сымон, ачараваны
Гэтай раніцы красой
І выпадкам негаданым
Добрай ночкі веснавой,
Сам ня ведаў, што зь ім, дзе ён,
Проста чуў, што ён шчасьліў,
Чымся новым быў авеян,
Новых сілак чуў прыліў.
Ён пазнаў тут асалоду,
Ён пазнаў тут новы сьвет,
То, чаго ня ведаў з роду, —
Ласкай хлопчык быў сагрэт.
Ён цяпер, бы на граніцы,
На высокім рубяжы;
Па адзін бок — блеск дзяньніцы,
Па другі — цьма, дзе ён жыў.
Ён цяпер — бядак, убогі,
Выклікае толькі жаль.
Ці-ж зачынены дарогі
У той край, у тую даль,
Дзе здабыць ён можа долю,
Шчасьце талентам здабыць?

# Адкрытае пісьмо

## Амэрыканскаму Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму

**АД РЭДАКЦЫІ: Выдатны дзеяч і вэтэран нацыянальна-вызвольнага руху Ідэль-Уральцаў Ідыят Яшэн зьвярнуўся да Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму з адкрытым пісьмом і пераслаў яго ў нашую Рэдакцыю з просьбаю надрукаваньня. Просьбу сп. Ідыята Яшэна ніжэй выконваем.**

✶

Першая й галоўная памылка дзяржаўных дзеячоў заходняга сьвету заключаецца ў тым, што яны пераацэньваюць сілу расейскіх шавіністых. Развал расейскай імпэрыі ў працэсе першай сусьветнай вайны зьяўляецца поўнасьцю дастатковым доказам таго гістарычнага факту, што расейскі імпэрыялізм не зьяўляецца ўжо жыцьцёваздольнай фармацыяй сучаснасьці. Ён увабраў у сябе лішня шмат «чужародных целаў». Ён зьмяніўся ў перашкоду на шляхох эканамічнага разьвіцьця народаў усходняй Эўропы і Азіі.

Бальшавізм ёсьць спробай устанаўленьня гэтай імпэрыі шляхам склейваньня «спэцыяльным псыхалягічным цымэнтам» часьцін, што распадаюцца, але гэты ядавіты цымэнт аказаўся на столькі шкодным, што падпарадкаваныя гэтай імпэрыі сталі губляць абраз нармальнага чалавека. Чырвоная імпэрыя, як штучная фармацыя, абсалютна ня рэнтабільная. Ламаючы й разбураючы ўсё, яна нічога ня здольная тварыць, каб прадоўжыць сваё існаваньне, яна мусіць акупаваць усё новыя й новыя краіны. У гэтым дзіўным творы і хаваецца яго сусьветная небясьпека.

Захоп дзяржаўнай улады бальшавізмам і асабліва лёгкая акупацыя маладых рэспублік Украіны, Крыму, Беларусі, Каўкаскай Фэдэрацыі, Ідэль-Уралу і Туркестану, усё гэта наступіла з прычыны абыякавасьці дзяржаўных дзеячоў Захаду да міжнародных фактараў будучыні.

Сіла бальшавізму, гэтае штучнае формы новага расейскага шавінізму, заключаецца ня ў нутры ягоным, а звонку: неразуменьне таго, што расейскі імпэрыялізм зьяўляецца нярэнтабільнай фармацыяй і што ён павінен быць сьцёрты зь геаграфічнай карты сьвету, дае лідэрам бальшавізму магчымасьць трымацца на чале гэтай імпэрыі, вышукваючы розныя формы дыпляматычных манэўраў. Расейскія шавіністыя вонках СССР, у васобах лідэраў эміграцыі, змушаныя іграць успамагальную ролю ў гэтых манэўрах.

Перадавыя людзі заходняга сьвету прадаўжаюць рабіць памылкі, лішня абапіраючыся на хвальшывыя дактрыны лідэраў расейскай эміграцыі ў тым, што быццам «бальшавізм будзе самазьліквідаваны» або «ён будзе зьнішчаны толькі палацовым пераваротам у СССР». Між тым, усякае спазьненьне зьяўляецца толькі ўслугай бальшавізму, бо яно дае лідэрам бальшавізму магчымасьць зьмякчэньня нутраных сацыяльных і нацыянальных крызысаў бальшавізму, шуміхай партыйных ягоных ворганаў аб «вызваленьні Азіі ад эўрапэйцаў».

Я не зьяўляюся палітычным дзеячом. Але я здольны разумець, што найлепшай палітыкай зьяўляецца такое дзеяньне, якое абапіраецца толькі на запраўднасьці. У сувязі з гэтым я перакананы, што: 1. крывавае змаганьне з бальшавізмам абсалютна няўхільнае; 2. што ўжо сяньня трэба прыступіць да фармаваньня такіх умоваў, якія зьменшылі-б кровапраліцьцё да мінімуму.

А гэта значыць, што 110.000.000 нерасейскага насельніцтва СССР павінны быць адарваныя ад ілжывай дактрыны «савецкага брацтва народаў». Трэба адкрыць ім вочы рукамі і вуснамі іх старэйшых нацыянальных лідэраў на ілжывасьць савецкай прапаганды аб тым, што быццам «у нерасейскіх народаў няма ніякай нацыянальнай культуры, апрача тэй, якая даецца бальшавізмам». Па-другое, трэба ў іх разбудзіць патухшую надзею на нацыянальную незалежнасьць, вызваліўшы іх ад пачуцьця страху перад колёсам на гліняных нагах. Па-трэйцяе, трэба адкрыта даказаць, што цяпер дзяржаўныя дзеячы Захаду і публічная апінія іхных народаў падтрымліваюць права нацыянальных лідэраў і нацыянальных цэнтраў нерасейскіх народаў СССР прадстаўляць імі свае народы на прынцыпах поўнай роўнасьці з расейскім народам.

Калі-ж гэта ня будзе зробленым, дык, у прыватнасьці, саракамільённую масу цюрскіх плямён СССР, стогнучых пад векавым прыгнечаньнем расейскага імпэрыялізму розных колераў, немагчыма будзе адарваць ад ілжывай надзеі на «брацтва савецкіх народаў» і ад небясьпекі іхнага ўключэньня бальшавізмам у арміі для «вызваленьня Азіі ад эўрапэйскіх калянізатараў». Нерасейскім народам СССР ужо цяпер трэба абвесьціць, што адзінай перашкодай да іх нацыянальнай незалежнасьці зьяўляецца толькі бальшавізм; што мэтаю іхнага змаганьня супраць бальшавізму зьяўляецца поўнае нацыянальнае вызваленьне і ўстанаўленьне правоў на незалежную дзяржаўнасьць.

✶

Ведама, што ў выніку развалу царскай імпэрыі зьняволеным расейскай імпэрыяй нерасейскім народам бальшавікі абяцалі поўнае нацыянальнае вызваленьне. Дзякуючы таму, што расейскія «белыя» генэралы пачалі займацца ўстанаўленьнем старога дзяржаўнага рэжыму, бальшавіком удалося тады ізаляваць гэтыя народы ад розных фармацыяў антыбальшавіцкага змаганьня. Але гэтыя народы цяпер ведаюць, што бальшавікі іх абманулі. І вось ігнараваньне Амэрыканскім Камітэтам нацыянальных цэнтраў тых, каго абманулі бальшавікі, зьяўляецца непрабачальнай памылкай. Яно вядзе сваёй чаргой да ізаляваньня нашых лідэраў ад цяперашняга антыбальшавіцкага змаганьня. Бо-ж, пазнаўшы толькі сталінскую хітрасьць бальшавікоў, нерасейскія народы маглі пападаць і ў другую памылку, папаўшы ў другую пастку: яны спатыкалі гітлерызм як фактар нацыянальнага вызваленьня. Між тым, панаваньне гітлерызму абазначала толькі зьмену рэвальвэру «наган» на нямецкі пісталет. Зьмяняўся толькі гаспадар, а няволя аставалася. Ясна, што праліваць кроў толькі для зьмены ўладароў у васобе мясцовых «чырвоных» на прыежджых «белых» народы нашыя не захочаць. Абмануць іх трэйці раз нікому ня ўдасца. Адсюль і напрашваецца вывад: падыймаць нерасейскія народы на збройнае змаганьне супраць бальшавізму, без абяцаньня мэты гэтага змаганьня, у канкрэтных формулах, як нацыянальнае вызваленьне і загарантаваньне нацыянальнай незалежнасьці, будзе абсалютна немагчыма.

Усім шчырым прыхільнікам запраўднай дэмакрацыі ўжо пара ведаць, што народы нашыя маюць собскія, у поўнасьці сучасныя нацыянальныя культуры і што яны не зьяўляюцца «дзікімі азіятамі», як стараюцца пераконваць расейскія шавіністыя розных колераў. Усе тыя грамадзкія арганізацыі Амэрыкі, якія ўзапраўды імкнуцца зьліквідаваць жульніцкі бальшавізм, як агрэсыўную імпэрыю, не павінны рабіць памылкі: пераацэньваючы сілу расейскага шавінізму, не павінны ігнараваць сілы нацыянальных цэнтраў нерасейскіх народаў на эміграцыі.

У прыватнасьці я і мае прыяцелі з Турэччыны ніяк ня можам знайсьці ўсправядліўляючых прычынаў тае памылковае пастановы радыястанцыі «Голас Амэрыкі», калі кіраўнікі ейныя пазбавілі права на антыбальшавіцкую радыяпрапаганду прадстаўнікоў сарака мільёнаў цюрскіх народаў СССР. Між тым, яны вызналі гэтыя правы за паўтара мільёнамі Армянаў і, прыкладам, такойжа колькасьці Грузінаў. Што гэта такое? Памылка ці падпарадкаваньне патрабаваньням расейскіх царкоўных колаў? Нам здаецца, што тут адыйграла нейкую ролю якаясьці «рука нязычлівага Амэрыканца», рука нашага і амэрыканскага ворага. Ня трэба губляць з увагі, што бальшавізм здабыў вельмі моцны апарат прапаганды, паставіўшы сабе на службу духавенства артадаксальнай царквы.

У будучым канфлікце колькасны патэнцыял савецкіх збройных сілаў у галіне людзкіх рэзэрваў будзе складацца ня толькі зь людзей расейскай нацыянальнасьці, але ў іхным складзе будуць і Ўкраінцы, і Беларусы, і Каўкасцы, і Балтыйцы, і саракамільённыя цюрскія плямёны. Калі воінаў нерасейскіх народаў адарваць ад кантакту із сваімі нацыянальнымі цэнтрамі на эміграцыі, ды, апынуўшыся поўнасьцю пад манапольным уплывам савецкай прапаганды, яны могуць быць змушанымі ваяваць і абараняць сваіх чырвоных гаспадароў, якія ўсё яшчэ прадаўжаюць іх абманываць ілжывай ідэяй «брацтва савецкіх народаў». Тым больш абарона Амэрыканскім Камітэтам панаваньня расейскага белага шавінізму аблягчыць бальшавізму пашыраць гэтую ілжывую ідэю. І вось, каб папярэдзіць сябе ад такой гістарычнай трагэдыі, нашыя нацыянальныя цэнтры ўжо цяпер павінны быць вызнаныя, як міжнародны фактар у перамозе над бальшавізмам.

Да таго часу, пакуль Амэрыканскі Камітэт будзе падтрымліваць Мельгуновых і Керэнскіх і вэрбаваць спадарожнікаў

**(Заканчэньне на 5-ай балоне)**

**Ул. Клішэвіч**

# Васіль Каліна

**(Заканчэньне з папярэдняга нумару)**

**XXXVI**

Жыве Сьцяпан, як кожны ў вёсцы:
Вясною косіць, летам жне
Адзін на вузенькай палосцы.
Ці добра жыць было, ці не,
А разважаў ён сабе так:
«Я не багаты й не бядняк,
Ёсьць на стале кавалак хлеба,
Таксама к хлебу трохі маю,
Яшчэ зь сям'ёй не галадаю —
Дык што-ж жывому болей трэба?»

**XXXVII**

Таго, што меў, яму хапала.
На шмат багацьця, на зямлю
Ня меў ён прагнасьці Міхала.
Ня раз казаў ён: «Ня люблю
Суседзяў прагнучых маіх.
Як пагляджу на працу іх —
Занадта ўжо выходзіць дзіка,
Каб дзень і ноч на працу плысьці
І працаваць так без карысьці
З душою прагнасьці вялікай.

**XXXVIII**

Нашто ў жыцьці такая праца,
Нашто дарэмна працаваць,
Каб хлеба зьесьці ўзяць баяцца,
Каб выпіць чарку шкадаваць?
Глядзіш — ня дрэннае сяло,
А колькі хлеба тут было,
А колькі тут дабра прапала?
Сабе шкадуюць. Хай у склепе
Дабро яго загіне лепей,
А людзям мала, мала й мала...

**XXXIX**

Адзін увесь свой век зьбірае,
І раптам — на табе, памёр...
Тады дабро свае кідае.
Другі жыве, як брыдкі тхор:
Дабро сваё ён завалок
У цёмны склеп і ў вузялок,
А на плячох сам лахманамі
Усё жыцьцё да самай сьмерці
Зь дзесятай латкай будзе церці,
Каб жыць век прагнучы між намі».

**XL**

Адна была ў Сьцяпана мэта:
Пражыць як лепш сваё жыцьцё,
Хоць цяжкай працаю за гэта
Заплаціць ён. Але за ўсё
Парадак ён ня дрэнны меў.
Былі рупліва хата й хлеў
Прыбраны так яго рукою,
Што навет блізкія суседзі
Ня раз казалі пры бяседзе
Аб яго працы і спакою.

**XLI**

Ён не складаў свае чырвонцы,
Каб праўнукі жылі на іх.
Ён купіць лепей хустку жонцы,
Ці пару ботаў дарагіх.
Але каб золата і медзь
Яму маглі ў труне зьвінець —
Лічыў нікчэмнымі ўсе мары.
Лічыў, што трэба жыць жывому,
Быць акуратным каля дому
І акуратна гаспадарыць.

**XLII**

На існасьць дзён глядзеў няхмура.
Аб мудрых ведаць ён ня мог,
Дык так ішоў да Эпікура
Праз скрыжаваньні ўсіх дарог.
Успамінаў нярэдка ён
Жыцьцё мінулае, як сон,
Як дні жыцьця яму даліся,
Як ён гаіў у сэрцы раны
Гарэлкаю. Як часта п'яны
Глядзеў у кубак Дзіяніса.

**XLIII**

На вопыце жыцьця зямнога,
Сярод прыроды і людзей
Пакінуў ён занадта многа,
Турбуючых яго надзей.
Сьцяпан забыўся ўжо даўно
І на гарэлку й на віно.
Чаго ніколі ён ня кінуў,
Аб чым ён толькі сам з сабою
Прыходзіў з думкай да спакою —
Дык гэта — даць навуку сыну.

**XLIV**

Ці выйдзе з плугам ён у поле,
Або з касой на сенажаць,
Заўсёды думку мімаволі
Не пакідаў ён паўтараць:
«Людзей зямны кароткі век,
А без навукі чалавек,
Хоць вочы мае, а нічога
Ня бачыць ён перад сабою —
Пакрыта вечна пеляною
Жыцьця нябачная дарога.

**XLV**

Вось я іду, як падарожны,
Што паміраць яму пара
І кпіны ладзіць хоча кожны
Над старцам без павадыра.
Жывём на сьвеце абыяк,
Падобны нам адзін чарвяк.
Як ён, мы сілаю сваёю
Без адпачынку дні і ночы
Зямлю сырую цяжка точым,
Каб стацца зноў навек зямлёю».

**XLVI**

Сьцяпан увечары, бывала,
Калі зьбярэцца дзетвара,
Любіў чытаць малым Купалу
І расказаць пра гусьляра,
Пра дзён мінуўшых курганы,
Як доўга польскія паны
За нашу працу баль спраўлялі.
І як яны за праўду дзеда,
Каб і народ аб тым ня ведаў,
Жывога ў зямлю закапалі.

**XLVII**

А сам глядзеў у вочы дзецям,
Чытаў іх думкі помсты, зла.
Чаму-ж такая крыўда ў сьвеце
Народу нашаму была?
Ня мог ён навет адказаць,
Як раптам чыстая сьляза
З вачэй кацілася міжволі
Па твары хмурага Сьцяпана —
Была тут помста ўся сабрана
І ўсёй душы сабраны болі.

**Сьнежань, 1942 г.**

**Ул. Клішэвіч**

**ПАПРАЎКА**

**У папярэднім нумары «Бацькаўшчыны» праз памылку адрывак з паэмы «Васіль Каліна» быў падпісаны прозьвішчам Р. Крушыны замест, як было патрэбна, Ул. Клішэвіча. Выпраўляючы гэтта гэтую прыкрую памылку, адначасна вельмі перапрашаем абодвых Паважаных Аўтараў.**

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»**

Ён жаданьням дае волю,
Ён, як людзі, хоча жыць.
Азірнуў ён і абмерыў
Далі ветлыя палёў,
Сіле ён сваей паверыў,
Зову новых галасоў.
І Сымонка азірнуўся
Кій-крывулю свой узяў,
У бок дому павярнуўся,
Ганну ў сэрцы павітаў.
«Будзь шчасліва, краска-зорка!
Не пагардзіла ты мной
І ў маёй ты долі горкай
Будзеш зданьню дарагой.
І вы будзьце ўсе здаровы,
Будзь і ты здароў, дзядок.
Няхай к вам з набыткам новым
Новы зьявіцца дзянёк!»

II

Я пайду, адзін пайду я.
Вольны вецер хай гадуе
Мае думкі, мае мары,
Мае песьні, казкі-чары.
Я пайду, міну лясочкі,
Што чарнеюць, нібы бровы:
Там пабачу я сьвет новы,
Там пацешу свае вочкі,
Там другія ўчую словы...
Я міну, міну лясочкі.
За лясочкамі за гаем
Далі, лёгшы сінім морам,
Вабяць душу мне прасторам
І чаруюць новым краем,
Клічуць к нейкім новым зорам
Далі, зьлеглыя за гаем.
На прасторы сэрцу люба.
Прывітаюць мяне краскі
І мне будуць баяць казкі,
Мне ўсьміхнецца постаць дуба
Чараў поўная і ласкі, —
На прасторы сэрцу люба.
Пабяжыць у сьвет дарога
Праз узгоркі, праз лагчынку;
Будзе ветрык гнуць былінку,
І навеюць думак многа
Мне пра мілую дзяўчынку
Далі тыя і дарогі.
Я пайду, адзін пайду я.
Няхай дзед сабе сярдуе:
Я яму цяпер ня служка —
Сам сабе хачу быць панам,
Разлучыцца ўжо пара нам.
Вольным быць хачу, як птушка.
Ціхай ранічкай, да сонца,
Хлопчык выбрaўся з двара,
Ідзе ён у сьвет бясконцы
Пашукаць таго дабра,
Каб зьмяніць свой лёс паганы,
Новым спосабам зажыць,
Каб увагі і пашаны
Перад ёю заслужыць.
У Сымонкі плянаў многа.
О, ён слаўна зажыве!
Гэта новая дарога
Родзіць мары ў галаве...

Па бакох палі ляжалі,
Пападаліся гаі,
І дарогі прабяглі
Чыста срэбра-ручаі
І шчасліва беглі далей
Між высокіх беражкоў,
Гаманіла хвалька з хваляй
Сьпевам роўным галасоў,
Хлопцу ў душу закідалі
Водгук згоды і спакой;
Іх алешыны віталі
І ад сонейка хавалі
Стаўшы дружнаю сьцяной.
Беглі сьценкі між жытамі
Па пагорках, па лагох,
І зьзяў гожа васількамі
Поля жытняга разлог.
Шоў Сымон адзін свабодны
І нязьвязаны нічым.
Чуўся ён і полю родным
І тым хмаркам веснавым
І вітаў іх, ім сьмяяўся
Падарожны малады
І ціхутка ў іх пытаўся:
«А вы, мілыя, куды?
Дзеткі сонца і зямлі,
Клопат, думкі, — ўсё пазбыта,
Вас нягоды абышлі».
А дарога у пяць нітак
Павіваецца, бяжыць,
Наабапал зь ёю жыта
Каласкамі гаманіць,
І бягуць-бягуць малюнкі
Поля, лесу і лугоў,
І ляжаць, бы тыя стрункі,
Зелень-засевы шнуроў.
А вось там, на павароце,
Дзе высокі, крыж стаіць,
Яблык вежы ў пазалоце
Зьзяе ў небе і гарыць.
Хлопчык дальш ідзе дарогай.
Сонца стала прыпякаць.
Разважаць пачаў убогі,
Дзе-б спажывы пашукаць.
У бок сьцежка павярнула,
Лёгшы зграбнаю дугой,
А з-за дрэў страха зірнула
І два коміны на ёй.
Падыйшоў Сымон — карчомка
Са стадолай і дваром.
Добры ўсім вядомы Шлёмка
Быў даўно тут карчмаром.
Шлёму лаялі і білі,
Ды ня моцна не са злом,
Бо яго такі любілі,
Ня міналі яго дом.
І то: як зь ім не паладзіць?
Як-бы ты ні быў зь ім груб —
І пасудзіць і парадзіць
Ды і выпіць даць ня скуп,
Абы толькі былі грошы,
Няма грошай — напавер, —
Адным словам, жыд харошы,
Толькі й ты яму адмер.
Дык ня дзіва, што да Шлёмы
Плыў народ, як у касьцёл;
Шоў і свой і незнаёмы,
З хутароў ішлі і зь сёл.
Тут пасэсар, арандатар,
Дробны пляхціц, важны пан,
Хто папіць, гульнуць аматар,
Кожны міл быў і жадан.

Затрымаўся тут Сымонка:
Ці зайсьці яму, ці не?
Паглядзеў — пуста скарбонка!
«А што зробіцца тут мне?»
Хоць ня сьмела, ды ступае
На карчомны ён парог
І са страхам азірае
Гэта логава-бярлог.
Удоўж сьцен стаялі лавы;
За сталом гурткі людзцоў,
На сталох — сьляды патравы:
Хлеб, агрызкі селядцоў.
Пры бутэльках гоман яркі,
Там і цесьць, і сват, і кум;
З рук у рукі ходзяць чаркі,
А ў галовах бродзіць шум.
Пах гарэлкі, дым махоркі
Зьвіс пад стольлю, як туман

Для старых Эмігрантаў

# Беларусь на конадні першае сьветнае вайны

**АД РЭДАКЦЫІ: Пачынаючы з гэтага нумару, у «Бацькаўшчыне» ўводзім спэцыяльны аддзел «Для Старых Эмігрантаў», у якім будзем друкаваць у прыступнай папулярнай форме інфармацыі зь гісторыі беларускага нацыянальна-вызвольнага руху ўва ўсіх ягоных аспэктах і падаваць ведамкі з жыцьця якраз старой эміграцыі ў ЗША, Канадзе, Аргентыне й інш., г. зн. матарыялы, для новай эміграцыі ведамыя, але для старой эміграцыі, якая зьяўляецца даўжэйшы час адарванай ад Бацькаўшчыны, бадай што зусім нязнаныя. Усіх нашых супрацоўнікаў, асабліва тых, што знаходзяцца ў краінах, дзе найбольш нашай старой эміграцыі, ветліва просім прысылаць у гэты аддзел свае матарыялы.**

*

**Што такое конадзень?**

**Конадзень** — гэта апошні дзень перад чымсь. **Кон** значыла даўней **канец**, значыцца **конадзень** — канцавы, апошні дзень перад чымсь важным, або наагул перад днём, пра які мова. Гэтак, конадзень Каляд — 24-га сьнежня; у нас гэты конадзень завуць Куцьцёй. Конаднём Вялікадня ёсьць Вялікая Сыбота. Але ў значаньню шырэйшым, конадзень якога вялікага гістарычнага здарэньня якой гістарычнай пары можа азначаць гады, дзесяткі і нат сотні год. Гэтак, пад конаднём нараджэньня Хрыста можна разумець сто і болей год. Дык і пад Беларусяй на конадні першае сьветнае вайны я разумею Беларусь ад 1905 да лета 1914 г. Чаму я выдзяляю гэты час? Бо толькі ў 1905 г. было дазволена ў расейскай імпэрыі друкаваць беларускай мовою, а дагэтуль было забаронена; а 1914 г. прынёс новае вялікае здарэньне — першую сьветную вайну, каторай усходні фронт праходзіў цераз нашую Бацькаўшчыну.

Як усе мы ведаем, уся Беларусь перад першай сьветнай вайною была пад Расеяй.

**З каго складаўся тады наш народ на ўсёй вялікай прасторы?**

Асноваю яго было сялянства. Ад сялян мала або й зусім ня розьнілася засьценкавая шляхта, але дзеля таго, што прадзеды шляхты не рабілі прыгону — паншчыны, шляхта ўважала сябе за штось лепшае, вышшае за сялян. Адлі было мяшчанства, каторае розьнілася ад першых дзьвюх групаў перш-наперш тым, што жыло ў местах і мястэчках. Заняткам мяшчане не заўсёды розьніліся ад сялянаў, бо вялікая часьць іх займалася таксама ўрабленьнем зямлі, але паміж мяшчан было больш рамесьнікаў, а дзе былі хвабрыкі, там мяшчане былі й работнікамі. Адлі йшлі розныя «паны». Гэта былі паны, што мелі шмат зямлі, або ўраднікі (чыноўнікі), ахвіцэры, прамыслоўцы, навет інтэлігенцыя вольных заняткаў — дактары, адвакаты, мернікі (каморнікі), вучыцялі, — усіх іх наш народ зваў панамі, сабе пакідаючы назоў найагульнейшы, што ад яго адабраць ніяк нельга было, назоў **людзёў. Гэтак,** прыкладам, казалі «Гэна панскае поле, а **гэта люд**зкое».

**Як жылося кажнай зь менаваных групаў нашага народу?**

Ралейныя паны, значыцца вялікія собсьнікі зямлі мелі багацьце, а паўпанкі, што мелі па двару або хвальварак, прынамся дастатак. Усе гэтыя ралейныя паны былі дваране (дваранамі была й шляхта, але ня ўся). А дваране мелі ўсе чыста правы. Яны маглі паступіць у якую хаця школу і быць найвышшымі ўраднікамі. Апрача таго, вялікія собсьнікі зямлі плацілі прапарцыянальна меншы падатак за сялян. У Амэрыцы і ў іншых справядлівых гаспадарствах, калі, дапусьцім, адныя зарабляюць у год 2 тысячы даляраў, а другія — 5 тысячаў, дык другія за кажны даляр плацяць падаткі большыя за першых, а ў Расеі было наадварот — бедныя плацілі з кажнае дзесяціны падатак большы як багатыя. У Расеі ніколі ня было справядлівасьці. Гэткім парадкам, дваране ня толькі мелі грамадзянскія правы, але мелі яшчэ й прывілеі. Сяляне й мяшчане ня былі грамадзянамі, але былі падданымі.

**Якія дачыненьні былі паміж менаванымі групамі жыхарства, асабліва паміж сялянамі і рознымі «панамі»?**

Сяляне завідавалі паном, бо мелі чаго завідаваць, а паны грэбавалі сялянамі, як чымсь шмат ніжэйшым, ня вартым іхнае ўвагі. Сяляне і блізу ўся шляхта й мяшчане гаварылі пабеларуску, а паны — парасейску або папольску. Хоць належылі да таго самога народу, але былі сабе ўзаемна чужыя. Сяляне ня ведалі, да якога яны народу належаць, а паны абмыльна думалі, што яны (паны) Расейцы або Палякі. Дзеля таго, хоць паны, дзякуючы сваёй асьвеце і свайму матар'яльнаму стану, мелі вялікія магчымасьці памагаць сялянству ў яго цяжкім, а часта й гаротным палажэньні, памагаць як з боку гаспадарскага, так і асьветнага, яны пра гэта ані ня рупіліся. Дзеля таго ня было ніякіх і арганізацыяў, што мелі-б сваім заданьнем палепшыць долю народу. Праўда, расейская ўлада арганізацыяў ня любіла, іх баялася, рэдка дазваляла, але ўсё-ж ткі можна было ў некаторай меры **абмінуць такія забароны.** Калі паны рабіліся ўраднікамі, дактарамі, адвакатамі, дык яны, з выняткам часткава дактароў, нічога сялянству не даючы, у ладнай меры зь яго жылі.

**Жыцьцё сялян**

Дзеля таго, што Расея будавала промысл у сябе, а наш край ператварыла ў сваю калёнію, то беларускія месты не разьвіваліся, а беларускае сяло было неранаселенае. Нястача зямлі адчувалася яшчэ з прычыны гаспадарскай асталасьці нашых гаспадароў, што было ўзноў аднэй з прычынаў нястачы ў Расеі асьветы. У шаснаццатым стагодзьдзі была праведзеная ў незалежным гаспадарсьцьве беларускім зямельная рэформа, званая валочнай, тады-ж была заведзеная трыпалёўка. І вось гэтая трыпалёўка заставалася і ў пачатку XX стагодзьдзя. Патрэбны быў надзел сялян панскімі й скарбовымі (казённымі» землямі. Але пра гэта ня было мовы. Наадварот, расейскі ўрад заклаў так званы «Крестьянский банк», каторы за падаткавыя, значыцца й беларускія, грошы скупляў у Беларусі землі ды сяліў на іх, дзеля русыфікацыі, расейскіх старавераў, дарма што ў Расеі зямлі было шмат болей, там землі пуставалі. Гэткім парадкам было паселена ў Беларусі колькі сот тысячаў расейскіх старавераў. Беларускія гаспадары, з прычыны зямельнага голаду, мусілі эміграваць да расейскіх губэрняў (Саратаўскай, Самарскай і ін.), дзе гінулі ў расейскім моры, або да Сібіру, або нелегальна выяжджаць да Амэрыкі. Калі-ж, прыяжджаючы да Амэрыкі, ня мелі тут сваякоў, дык былі, як заблудзіўшы ў лесе, або й горай, — зусім ня так было, як імігрантам іншых народаў, што мелі тут сваіх нацыянальна сьвядомых сяброў і свае нацыянальныя арганізацыі. Вось што знача нацыянальнае нясьведам'е, няведаньне хто ты, да якога народу належыш! І ў Амэрыцы расейскія й польскія паляўнічыя на беларускія душы палявалі на нашых імігрантаў, каб коштам найбольш пакрыўджаных павялічыць свае нацыянальныя сілы, каб нашымі людзьмі дапаўняць свае арганізацыі, каб ставілі ім народныя дамы, іхныя цэрквы й касьцёлы.

**Войска**

Забраўшы нашую Бацькаўшчыну, Расея брала нашых дзяцюкоў у маскалі, у сваё войска. Спачатку служылі 25 год, потым 20, 15 і на пачатку XX стагодзьдзя «толькі» 4 або 5 год, — як да войска. У войску салдатам плацілі 50 капеяк у месяц. За гэты час выслужаваў салдат шынэль і шапку ды ў прыдатку расейскую мову й дэмаралізацыю, з чым і варочаўся дамоў. Але, войска было адным із галоўных спосабаў дэмаралізацыі й русыфікацыі.

**Школы**

Перад першай сьветнай вайною пачатныя, або, накш, народныя школы былі ў местах і мястэчках, рэдка ў сяле (вёсцы). Звычайна, калі дзе былі ў сяле, дык у сяле царкоўным, значыцца ў такім, дзе была царква. Вышшыя пачатныя або мескія школы былі ў паветавых мястох і ў іншых мястох такіх, як паветавыя або большыя. Сярэднія школы — гімназіі й адумысловыя былі ў губэрнскіх, выняткава ў іншых мястох. За незалежнага свайго гаспадарства Беларусы мелі ў шаснаццатым стагодзьдзі першы на ўсходзе Эўропы ўнівэрсытэт. Расея, забраўшы Беларусь, зачыніла ўнівэрсытэт у Вільні і ў Полацку і колегіі ў іншых мястох. Багатую маемасьць беларускіх унівэрсытэтаў Расейцы перавезьлі да пецярбурскага й кіеўскага ўнівэрсытэтаў. Замест зачыненых, Расейцы не адчынілі ніякага ўнівэрсытэту ані высокай школы ў Беларусі. Не дазволілі таксама мець унівэрсытэты беларускім местам, калі тыя хацелі адчыняць іх на свой кошт. Рабіла гэтак Расея, каб зрабіць нашым людзём цяжшы прыступ да ўнівэрсытэту, каб меней Беларусаў мела высокую асьвету; а, другое, дзеля таго не давалі Беларусі ўнівэрсытэту, каб унівэрсытэт ня быў зьвязаны зь беларускім краем, каб ягоныя гадунцы не пазнавалі роднага краю і ягонай гісторыі, — адным чынам, каб не пазнавалі й ня любілі свайго краю і свайго народу і ня былі ягонымі абароньнікамі. І запраўды, вучыцца ў унівэрсытэце ў Вільні, Менску, Магілеве, Смаленску, Гомлю было-б прыступна кажнаму заможнаму гаспадару бо тут і жыцьцё таннае і да дому можна часьцей даведацца ды прывезьці адтуль сабе еміны. А з аколіцаў унівэрсытэцкага места маглі-б вучыцца ў унівэрсытэце і дзеці незаможных гаспадароў. Мяшчанам унівэрсытэцкага места ўнівэрсытэт быў-бы дома. Але вучыцца ў Пецярбурзе, Маскве, Кіеве, Варшаве маглі толькі панскія дзеці, з гаспадарскіх — надзвычайныя выняткі.

А калі і з далёкіх унівэрсытэтаў выходзілі зь беларуска-панскіх сыноў выдатныя навучоныя, мастакі й адміністратары і адначасна патрыёты свайго беларускага народу, дык яны не маглі знайсьці месца ў Беларусі, бо, **першае, Расея** не дапушчала, каб Беларус быў высокім адміністратарам у Беларусі; а, другое, дзеля таго, што Расея не дазваляла ў Беларусі высокіх навуковых і культурных установаў, дык і ня было тут дзе выкарыстаць сваю веду. Дзеля таго выдатныя беларускія навучоныя й мастакі заставаліся на чужыне, як, прыкладам, выдатны гісторык М. Даўнар-Запольскі быў ўвесь час прафэсарам кіеўскага ўнівэрсытэту, этнограф М. Янчук быў прафэсарам маскоўскага ўнівэрсытэту, прафэсар антычнае філёлёгіі Б. Эпімах-Шыпіла выкладаў грэцкую й лацінскую мову ў духоўнай акадэміі ў Пецярбурзе, хімік Вячаслаў Іваноўскі быў прафэсарам на палітэхніцы ў Пецярбурзе, славутны Швярубовіч (Качалаў) быў актором маскоўскага тэатру. І г. д., і г. д.

Каб-жа, замест беларускіх, былі ў Беларусі расейскія ўраднікі, расейскі ўрад дадаваў ім да пэнсіі прыдаткі за абрусеньне краю.

І тыя школы, што былі ў Беларусі, былі расейскія; аж да рэвалюцыі 1917 г. пабеларуску вучыць было забаронена. У ўсіх школах, пачынаючы з пачаткавае, праводзілася сыстэматычная русыфікацыя і высьмейвалася ўсё беларускае, мова, звычаі і іншае. Дзеля таго ня рэдка было, што гаспадарскія дзеці, павучыўшыся ў школах, чураліся сваіх бацькоў.

(Далей будзе)

Брачыслаў Скарыніч

# Адкрытае пісьмо

(Заканчэньне з 4-ай балоны)

зь ліку «былых камуністых», нежадаючых падпарадкавацца сваім нацыянальным цэнтрам з прычыны веры апошніх у бальшавіцкія плёткі, усякая магарыяльная помач ім будзе зьмяняцца ў «забясьпечваньне іх водкай і закускай» і ствараць спрыяльныя ўмовы для паўставаньня пятых калёнаў бальшавізму ў антыбальшавіцкім лягеры. Шуміха бальшавікоў і іншых расейскіх шавіністых вакол «Сталінграду» ня мае гістарычнага грунту. Так, упадак гітлерызму пачаўся пад Сталінградам..., але фактарамі гэтага ўпадку гітлерызму былі: 1. помач Амэрыкі, 2. хаўрусьніцкія бамбардаваньні нямецкіх аб'ектаў, 3. адыход усіх нацыянальна-вызвольных сілаў ад лягеру гітлерызму.

І цяпер, калі здарова думаючыя дзеячы Амэрыкі заклікаюць **Пакістан і іншыя музулманскія краіны** ўвайсьці ў вадзіны фронт супраць бальшавізму, калі Амэрыканскі Камітэт будзе прадаўжаць ігнараваць кантакт з нацыянальнымі цэнтрамі сарака мільёнаў музулманаў СССР, якія змушаныя **аддаваць да пяці мільёнаў сваіх сыноў у савецкую** армію, дык і будзе створаны той самы палітычны парадокс, зь якога скарыстае бальшавізм. Бо гэты парадокс можа прывесьці да «раздваеньня» паглядаў у Амэрыцы, што можа ствараць умовы для арганізацыі бальшавізмам «нутранацыянальнага змаганьня» ў самой Амэрыцы.

Народы нашыя добра ведаюць сваіх лідэраў, бо гэтыя лідэры далі ня мала розных навуковых, гістарычных і іншых культурных твораў сваім народам і адначасна вялі самаахвярнае змаганьне супраць расейскага імпэрыялізму. Але савецкая тайная паліцыя арыштоўвае і расстрэльвае ўсіх, хто паказвае хоць-бы азнакі сымпатыі да сваіх лідэраў. У выніку такога ціску нашае маладое пакаленьне часта астаецца ў няведаньні многіх фактаў зь мінуўшчыні свайго народу. Вось чаму цяпер, як ніколі, ёсьць неабходнасьць, выкарыстоўваючы ўсе сучасныя сяродкі прапаганды, даводзіць да вушэй і розуму моладзі праўду аб гісторыі ейных народаў і аб змаганьні іх нацыянальных цэнтраў. Але, на жаль, Амэрыканскі Камітэт, падбіраючы «супрацоўнікаў» для сваіх прапагандных ворганаў, вэрбуе іх зь ліку праціўнікаў нашых нацыянальных цэнтраў. У выніку, нацыянальна-вызвольная прапаганда астаецца вонках рамаў антыбальшавіцкай дзейнасьці Амэрыканскага Камітэту.

**ВЫВАДЫ**

Сколькі-бы Амэрыканскі Камітэт не чакаў задзіночаньня запраўдных нацыянальных цэнтраў нерасейскіх народаў зь лідэрамі КЦАБ-у, гэтага свайго жаданьня не дачакаецца ніколі! А калі будзе праяўляць сваю дзейнасьць толькі апіраючыся на падобныя «расейскія цэнтры», то ўсе спробы «змаганьня супраць бальшавізму» будуць патухаць на поўшляхох. Мне здаецца, разьвязаньне праблемы аб гэтай самай «каардынацыі» трэба шукаць між НОРД Алексінскага і Парыскім Блёкам. І ў працэсе гэтага шуканьня быць можа і знойдуцца больш рэальныя шляхі каардынацыі.

Із шчырым прывітаньнем і пажаданьнем найлепшых посьпехаў

**Вэтэран нацыянальна-вызвольнага руху Ідэль-Уральцаў**
**Ідыят Яшэн**

**ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ**

Беларускі Нацыянальны Камітэт у Нямеччыне паведамляе, што ўсе тыя нашыя суродзічы, якія хочуць эміграваць у Задзіночаныя Штаты Амэрыкі, але ня маюць яшчэ ашурансаў і надзеі атрымаць іх ад сваякоў або знаёмых, павінны падаць аб сабе Галоўнай Управе Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью Ёрку наступныя дадзеныя: 1) Імёны і прозьвішчы, 2) чысло нараджэньня, 3) месца нараджэньня (вёска, горад, дзяржава), 4) нацыянальнасьць, 5) сямейны стан, 6) прафэсія, 7) стан здароўя, 8) заўвагі (калі такія будуць). Сьпіскі сем'яў з вышэйшымі дадзенымі трэба напісаць лацінкаю і накіраваць непасрэдна ў БАЗА паводля адрасу:

60—07 56 Drive,

Masphet, Long Island. New York. USA

І ад сьмеху і гаворкі
Дрыгаціць карчма-майдан.

— Го, музыка тут, музыка!
А ну, хлопча, — тра-ля-ля!
Патанцуем, сват Грамыка,
Каб аж бухала зямля! —
А музыка — дух у пятах:
Як залучаць тут — бяда!
Людзі п'яныя — вар'яты, —
Аж бярэ яго жуда.
Але тут падскочыў Шлёма.
— Ну й чаго збаяўся ты?
Тут у карчме мы ўсе дома!
А ты-ж можа не сьвяты?
Ідзі далей — месца хваціць,
Ну ня бойся: не зьядуць!
Паіграй-жа, пане браце,
У кішэню накладуць! —
Павярнуў Сымонка крута:
— А чаго-ж баяцца тут? —
Міг адзін, адна мінута —
Талент вынесе на суд.
Вынуў скрыпку, смык падмазаў
Ды па струнах як павёў —
Ціха стала ўсё адразу,
Моўкне бура галасоў.
Павярнуліся галовы
У той бок, дзе граў Сымон,
І спыняе ўсе размовы
Гэтых струн прыўдалы звон.
Поўна карчма тога звону,
Ён яе рве берагі,
Іківае ў тахт Сымону
То адзін тут, то другі;
А як пусьціць лад вясёлы,
Забірае рух мужчын:
Разгарнуў Грамыка полы,
Казака йдзе сам-адзін;
І самога нават Шлёму
Забірае гэты рух,
Падае кіўкі другому.
А сам кажа толькі: «ух!»
Вышла Хава, жыдзяняткі
Пазьбягаліся сюды,
Ходзяць плечы іх, лапаткі
На вясёлыя лады.

Кончыў граць, сьнімае шапку —
Даказаў сваё-ж такі!
І працягвае ён лапку —
Зазьвінелі медзякі.
Адараюць хлопца шчыра
І грашыма і дабром,
А Грамыка даў паўсыра
І дзесятку серабром,
А ў вагульным шуме-крыку
Выхвалялі яго ўсяк.
— Чый ён, жэўжык? Ось музыка!
Ось псякроў яго, мастак! —
Першы крок — пачатак справы.
Слова Шлёмы самаго.
Штось прамовіўшы да Хавы,
Ідзе Шлёма да яго.
— Слухай, хлопча, мой малойчык!
Хочаш нештачка ты знаць?
Да мяне зайдзі ў пакойчык:
Маю штось табе сказаць. —
Што-ж ён скажа? знаць цікава!
Трохі цяміць і Сымон,
Бы й на лад выходзіць справа,
І ў пакойчык ідзе ён.
Зашчаміўшы грошы ў жмені,
Ён вашоў у той пакой;
У пакоі страхаў цені
Мільгатнулі талакой.
Вочы ўзьняў ён, што за дзіва?
А які-ж там гэта дзед?
Чаго ён глядзіць так скрыва?
І дзіўны-ж такі партрэт!
Пойдзе ўлева, стане ўправа, —
Рабін поглядам жывым
Так і цягнецца за ім!
Вось праява, дык праява!
Хіба ўгневаны ён чым?
Але валіць тут кагалам
Племя Шлёмава ў пакой
І пастала цесным валам
І гудзе наперабой
То з Сымонкам, то з сабою,
А зь іх самы дасьціпны
Бярэ скрыпку і рукою
Дакранаецца струны;
І ня рад Сымон тэй чэсьці
І кампаніі такой, —
Хоць-бы ногі як унесьці,
Горш астрога той пакой!
А той Хаім змайстраваўся,
Каб і смыкам павясьці, —
Тут Сымон усердаваўся
Ды стаў Хаіма трасьці,
Хаім толькі скаліць зубы,
Скрыпку ўжо бярэ Абрам.
— Го, Абрамка! го, мой любы!
Скрыпка кажа — ці-ра-рам?
Ён да скрыпкі здольнасьць мае...
Ну, пашлі вы! вон! авэк! —
Шлёма новы тон прыймае,
Шлёма — спрытны чалавек!
— Вось паслухай мяне, Шлёму:
Знаю, хлопча, я твой хлеб!
Кепска жыць вось так бяз дому, —
Я ўсё бачу, я ня сьлеп.
А ты-б мог жыць так, як трэба,
Мець прыпынак, пэўны кут,
І па бораду мець хлеба
І ня мець вось гэты бруд.
На табе-ж адно лахмоцьце, —
Уй, які халат-рызман,
На цябе зірнуць страхоцьце,
І сам высах, як таран.
Трэба-ж справіць і адзеньне,
І мець боцікі ў запас,
І да квасу мець і квас, —
Трэба ў грунт пусьціць карэньне
Трэба-ж нешта мець на мэце,
Калі маеш тут цара,
А ня шворыцца па сьвеце,
Ў двор ходзячы з двара.
А што выхадзіш? нічога! —
Проста... нельга тут маўчаць! —
І пачаў, пачаў малога,
Як той бацька навучаць.
— Хочаш быць ты чалавекам?
Хочаш мець прыпынак-кут?
Заставайся ў мяне тут!
Пад маёю будзь апекай.
У мяне бываюць людзі,
Ды ня простыя — паны,
Любяць музыку яны;
Вечарынка часам будзе,
А ты возьмеш сабе скрыпку —
Цім-та! цім-та! Ці-лі-лі! —
Шлёма рукі ўськінуў шыбка,
Як-бы струны там былі,
А ён сам мастак-музыка,
Аж Сымона бярэ сьмех.
— Ну, турбота невяліка,
І адмовіцца тут грэх!
Дык якое тваё слова?
Ну, падумай і скажы!
— А што-ж граць мне ўжо ня нова,
Скрыпка, смык мне ня чужы,
І я згодзен быць у пана,
Я застацца тут гатоў! —
Так Сымонка негадана
Там прытулішча знашоў.

(Далей будзе)

# Зьезд вернікаў БАПЦарквы ў Вялікабрытаніі

**«Каб мы судзілі самых сябе, дык ня былі-б засуджанымі»** (I, Паўлы да Карынціянаў, 11-31).

Каб падсумаваць свае дасягненьні і асудзіць свае недахопы ад пачатку зарганізаваньня беларускага рэлігійнага жыцьця ў Вялікабрытаніі, Вікарыяльная Ўправа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы 17—18 ліпеня сёлета склікала зьезд сяброў Брацтва і Сястрыцтва Жыровіцкае Божае Маці ды вернікаў БАПЦарквы. Месцам зьезду быў выбраны Брадфорд, як месца жыхарства сьвятара і з гледзішча на адпаведнае памяшчэньне ў Беларускім Доме. Пачатак нарадаў зьезду быў вызначаны на гадзіну 15,30. Няспрыяльная пагода ня перашкодзіла запраўдным вернікам на час зьехацца на зьезд. На асаблівую ўвагу заслугоўваюць вернікі з Манчэстэру, якія прыехалі цэлай грамадою. Галоўная ўвага ўсіх была зьвернутая на прыезд паважанага Пратаярэя а. Захара з хорам. Перад пачаткам нарадаў Пратаярэям Захарам і а. Аляксандрам быў адслужаны малебен і была ўзьнесеная да Ўсемагутнага просьба аб памысным прабегу зьезду. Зьезд адкрыў а. Аляксандар і прачытаў прывітаньні й парады, атрыманыя ад Галавы БАПЦарквы Ўладыкі Сяргея, Уладыкі Васіля, Галавы і Адміністратара УАПЦарквы ў Вялікабрытаніі Протапрасьвітара Молчаніўскага, Пратаярэя Шчурко з Аўстраліі, ад Згуртаваньня Беларускіх Камбатантаў у Аўстраліі, ад Каардынацыйнага Камітэту ў Аўстраліі, ад Згуртаваньня Беларусаў у Вікторыі і паасобных грамадзян.

Пратаярэй а. Захар у сваім зьместоўным і цэнным дакладзе «Мэты і дзейнасьць нацыянальнае Царквы» вельмі выразна й рачова схарактарызаваў дзейнасьць нацыянальнай Царквы і абавязкі верніка.

Старшынёй зьезду быў выбраны Пратаярэй Палякоў, сакратаром сп. А. Бута. У інфармацыйным дакладзе зь дзейнасьці і разьвіцьця рэлігійнага жыцьця ў Ангельшчыне а. Аляксандар схарактарызаваў царкоўную дзейнасьць ад часу абняцьця апекі над асірацелай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквою Яго Высокапраасьвяшчэнствам Высокапраасьвяшчэнным Архіяпіскапам Сяргеям ды выказаў шчырую падзяку тым вернікам, якія прыйшлі з матарыяльнаю помаччу. Пасьля рэчовых дыскусіяў над унясеньнем папраўкаў у Статут была выбраная Вікарыяльная Ўправа, якой даручана выконваць абавязкі Цэнтральнае Ўправы Брацтва й Сястрыцтва Жыровіцкае Божае Маці.

У нядзелю 18. 7. 1954 г. была адслужаная Пратаярэям Паляковам і а. Аляксандрам літургія. Мэлёдыйнасьць хору пад дырыгенцтвам а. Захара прывабіла ў капліцу навет тых, якія да гэтага часу адносіліся да рэлігійнага жыцьця абыякава. Капліца была перапоўненая вернікамі, больш палавіны якіх была змушаная стаяць на калідоры і на сходах. Некаторыя вернікі мелі сьлёзы ў вачох, бо казаньні абодвых сьвятароў, а асабліва прыгожасьць сьпеву хору прыпаміналі ім царкву на роднай бацькаўшчыне. Цудоўным выкананьнем беларускага рэлігійнага гымну была закончаная Божая Служба.

Пасьля Богаслужбы ўсе сабраліся ў вялікай залі, дзе ўжо быў прыгатаваны рупнымі рукамі сяброў Брадфордзкага Аддзелу абед. За сталом братчыкі не забыліся й аб тых, якія ў змаганьні за волю бацькаўшчыны передчасна адыйшлі на вечны супакой, а хор аддаў ім пашану песьняй «Сьпі пад курганам гэрояў». Прадстаўнік ад Казакаў горача прывітаў усіх прысутных, зазначаючы, што паміж народам беларускім і казацкім няма ніякіх разыходжаньняў, а таму мы павінны нашае сяброўства яшчэ болей узмоцніць. Хор праз увесь час, не шкадуючы высілкаў, чараваў прысутных новымі й новымі песьнямі. Пасьля абеду была праведзеная яшчэ адна дыскусія над плянам працы на будучыню, пасьля чаго а. Аляксандар паінфармаваў аб цяжкім матарыяльным палажэньні нашага Дастойнага Ўладыкі Сяргея. Узьнікла прапанова зрабіць на гэтую мэту збор ахвяраў, у выніку чаго было сабрана 16 фунтаў і 17 шылінгаў.

З паміж цэлага раду пастановаў было пастаноўлена выслаць прывітаньні Герархам БАПЦарквы і Галаве Англіканскае Царквы Архіяпіскапу Кантэрбурскаму, ад якога на другі дзень была атрыманая шчырая падзяка. Усе прысутныя вынеслі падзяку Пратаярэю а. Палякову за добрае правядзеньне нарадаў зьезду і асаблівую падзяку харыстым за іх мастацкі і мілагучны сьпеў. Выражэньнем пажаданьняў, каб падобныя зьезды адбываліся часьцей, і малітвай да Багародзіцы «Достойно есьць» закончыўся зьезд.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## Зьезду Брацтва й Сястрыцтва Жыровіцкае Божае Маці у Ангельшчыне

Узносячы шчырую падзяку Ўсемагутнаму Тварцу і Богу нашаму, які праявіў да нас гэткую вялікую ласку і дапамог нам аднавіць нашую асірацелую Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, дзякуючы чаму мы можам славіць Ягонае Вялікае і Ўсячэснае Імя ды ў роднай мове зварочвацца да Яго з просьбаю, Зьезд Брацтва і Сястрыцтва Жыровіцкае Божае Маці ды Вернікаў БАПЦарквы, які адбыўся з багаславенства Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскапа Сяргея — Галавы БАПЦарквы і багаславенства Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскапа Васіля — Сакратара Духоўнае Кансысторыі БАПЦарквы, у горадзе Брадфорд 17—18 месяца ліпеня року Божага 1954, вынес наступную пастанову:

1. Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ў Вялікабрытаніі ёсьць часткаю Сьв. БАПЦарквы, заснавальнікамі якое зьяўляюцца Хрыстовыя Апосталы, нашыя слаўныя сьвятыя, як: Еўфрасіньня Полацкая, Кірыла Тураўскі, Аўраам і Мэркуры Смаленскія, Сьв. Віленскія мучанікі, мітрапаліты Навагрудзкія Фіяфілам і Грыгор Цымбляк, мучанік нашае эры Мітрапаліт Мэльхіседэк і іншыя мучанікі.

2. З сыноўскаю адданасьцю і пашанаю прыймаем перасланыя нам багаславенствы і парады Зьверхнікаў нашае Царквы Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскапа Сяргея і Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскапа Васіля ды сьцьвярджаем вернасьць сваёй БАПЦаркве, а таксама вернасьць і адданасьць Ейным Герархам.

3. Зь любоўю ўспамінаем нашых Братоў і Сёстраў, якія цяпер жывуць і церпяць пад няволяю чужынцаў на роднай Беларусі, ды просім Усемагутнага Бога, каб прысьпешыў час іхнага вызваленьня і дапамог захаваць нам разам зь імі адзінства веры.

4. Імкнучыся да міру, хрысьціянскае любові і разьвіцьця нашае Сьв. БАПЦарквы, Зьезд заклікае ўсіх праваслаўных Беларусаў забыцца пра ўсе спрэчкі й непаразуменьні і для дабра Бацькаўшчыны задзіночыцца навакол БАПЦарквы, якая зьяўляецца ня толькі дзейнікам духова-рэлігійным, але і нацыянальным.

5. Усё, што перашкаджае гэтаму працэсу, а гэтак сама і тое, што ўстрымоўвае замацаваньне арганізацыйнага парадку, павінна быць вернікамі асуджанае, бо кажны Беларус ужо павінен быць сьведамы таго, якую шкоду беларускаму народу зрабіла і робіць чужая Царква, якая і цяпер у рознай форме суліць Беларусам сваю «духовую апеку».

6. Зьезд вынес пастанову карыстацца Статутам Брацтва й Сястрыцтва, зацьверджаным Духоўнай Кансысторыяй БАПЦ 20. 6. 1949 году, а новаапрацаваны Статут Брацтва пераслаць на разгляд ува ўсе Аддзелы Брацтва, а пасьля ўнясеньня папраўкаў пераслаць у Духоўную Кансысторыю з просьбаю аб зацьвярджаньні.

7. Зьезд канстатуе ўзмацненьне БАПЦ у Вялікабрытаніі і ўважае мэтазгодным зьвярнуць увагу новаму складу Ўправы Цэнтральнага Брацтва і Сястрыцтва Жыровіцкае Божае Маці на наступнае:

а) на пашырэньне працы Парахвіяльных Брацтваў і Сястрыцтваў;

б) дагледзіць за стварэньнем новых асяродкаў праваслаўных Беларусаў ды зарганізаваць там парахвіі й рэлігійнае жыцьцё;

в) мясцовыя ўправы Брацтва й Сястрыцтва абавязкава мусяць зрабіць сьпіскі праваслаўных вернікаў і пераслаць іх у Ўправу Цэнтральнага Брацтва й Сястрыцтва.

8. Для замацаваньня царкоўна-рэлігійнага жыцьця і хрысьціянскай маралі Зьезд лічыць, што асноўным і найважнейшым абавязкам для аддзелаў Брацтва ёсьць клапаціцца аб зарганізаваньні Службаў Божых, а для вернікаў наведваньне іх.

9. Зьезд лічыць неабходным зьвярнуць увагу на хрысьціянскія асновы ў васабістым і сямейным жыцьці, дбаньне пра адраджэньне ды ўвядзеньне ў жыцьцё беларускіх царкоўна-рэлігійных абрадаў, звычаяў і пашыраць сярод вернікаў традыцыі нашых бацькоў, дзядоў і прадзедаў ды памінаць памёршых свіх родзічаў.

10. Правесьці рэгістрацыю тых, якія патрабуюць падмогі, апекі, парады і пацехі.

11. На ўтрыманьне Герархаў БАПЦ рабіць пэрыядычныя зборкі.

12. Прапанова падвышэньня сяброўскіх складак на выдаткі Вікарыяльнае Ўправы і сьвятара ў вышыні 1 шылінга на тыдзень ад кажнага сябры Брацтва можа быць прынятаю толькі пасьля апрабаты ўсімі мясцовымі ўправамі Брацтва і Сястрыцтва.

13. Бяручы пад увагу адсутнасьць беларускага праваслаўнага рэлігійнага часапісу, Зьезд вынес пастанову зьвярнуцца ў гэтай справе да Герархаў БАПЦ аб выдаваньні часапісу, даючы заруку, што кажны сябра Брацтва будзе яго прэнумараваць і аплачваць.

14. Усіх вернікаў нашае Царквы заклікаем цьвёрда і непахісна трымацца свае веры, брацкае любові адзін да аднаго і послуху для сваіх пастыраў. Гэтым мы павялічым сваю працу ў Хрыстовым Вінаградніку, памятаючы словы Хрыста: «Жніво вялікае, а работнікаў мала» (Лука, X-2). А ў гэтай сьвятой справе няхай дапаможа нам Усемагутны Бог з малітвамі ўсіх угоднікаў Божых Зямлі Беларускай.

З даручэньня Зьезду падпісаў:

**Аляксандар Бута**
**Сакратар Зьезду.**
**Брадфорд, 18 дня месяца ліпеня**
**Року Божага 1954.**

# „Я ня веру у новую сусьветную вайну“

**(Заканчэньне з 2-ой балоны)**

Штаты Амэрыкі адкідаюць гэтыя сфэры ўплываў і падзел сьвету, і пры цяперашняй сытуацыі дагавор аб падзеле сьвету вялікай тройкі ня быў-бы магчымы без санкцыянаваньня Амэрыкай савецкага панаваньня над сатэлітнымі краінамі. Але гэтага Вашынгтон ня зробіць.

Апрача гэтага санкцыянаваньне статусу кво на ўсіх кантынэнтах мусіла-б быць узалежненае ад добрай волі й прыязьні. Ці-ж можа Масква быць спакойнай, калі камуністыя ў Гуатэмалі будуць уціснаныя? Ці-ж перастане Крэмль рабіць намаганьні, каб здабыць уплывы ў арабскіх краінах? Ці таксама перастане «Голас Амэрыкі рабіць антыкамуністычныя заклікі да народаў Савецкага Саюзу?

Адзінай можа быць успакойваючай думкай, што Савецкі Саюз нічога ня зможа дасягнуць у Эўропе, калі Амэрыка, Францыя й Вялікабрытанія захаваюць сваё адзінства. Расея ня зможа тады напасьці. Яна ня мае важнага гаспадарскага аружжа. Адзіная надзея на ўзмацненьне камуністычнага боку заключаецца ў тым, калі яму ўдасца пасварыць між сабой некамуністычныя дзяржавы. Калі запытацца, чаму Масква гэтак войстра выступае супраць эўрапэйскай абароннай супольнасьці, дык адказ можа быць толькі адзін: эўрапэйская абаронная супольнасьць будзе Эўропу ўзмацняць і аслабляць уплывы Расеі ў Эўропе. Задзіночаная Эўропа была-б вялікай прыцягаючай сілай для эўрапэйскіх сатэлітаў Расеі. Крэмль ня хоча сільнай Эўропы яшчэ й зь іншай прычыны. Расея ўсё яшчэ спадзяецца здабыць Нямеччыну. Гэта было асноўнай мэтай савецкай палітыкі ад ленінскіх дзён. Расейскія марксістыя гаварылі панямецку, чыталі нямецкіх філёзафаў і тэарэтыкаў і пражывалі ў Нямеччыне. Яны верылі, што той будзе мець Еўропу, хто будзе мець Нямеччыну. У гэта вераць савецкія правадыры таксама й сяньня. Яны адмаўляюцца ад задзіночаньня Нямеччыны з Заходняй Эўропай, бо гэта было-б канцом расейскай надзеі вырваць Нямеччыну з заходняга лягеру.

Многія Ангельцы і многія нямецкія сацыял-дэмакраты цьвердзяць, што эўрапэйская абаронная супольнасьць пахавала-б надзею на задзіночаньне Нямеччыны. Чаму-ж тады ня вітае Масква задзіночаньня Нямеччыны з гэтае прычыны? Няўжо Масква жадае задзіночаньня Нямеччыны? Так, але пад кантроляй Масквы. Масква робіць уражаньне, што яна імкнецца здабыць Францыю. Але гэта не адказвае запраўднасьці Масква закідае вуду на Нямеччыну. Маленкаў надзеіцца, што Францыя здабудзе для яго Нямеччыну. І тады толькі апыніцца Францыя ў безнадзейнай сытуацыі. Будучыня Эўропы залежыць ад таго, ці Нямеччына будзе на баку Расейцаў ці астанецца пры Захадзе. Таму такой зьяўляецца важнай пастанова Францыі ў справе ратыфікацыі эўрапэйскай абароннай супольнасьці. Таму Расея імкнецца перашкодзіць ратыфікацыі Францыяй дагавору аб эўрапэйскай абаронай супольнасьці.

# Чаму Іван Луцкевіч не пакінуў па сабе пісьменных...

**(Заканчэньне з 3-яй балоны)**

Ён усё спадзяваўся, быў па натуры сваей вялікі аптымісты, што настануць лепшыя часы і для Беларусаў, маладыя сілы выступяць наперад, а ён у старшыя гады адойдзе ад палітыкі і вернецца да навукі.

А цяпер яго ўсё дэнэрвуе, і што думкі ягоныя лятуць хутчэй пяра, і што супакою няма, і затым ён празь дзень гэтак змучаны, што ў вечар больш ня здольны думак сабраць, — жаліўся ён ня раз. І ня дзіва, хвароба ўсё мацней яго тачыла, пакуль перарвала ягонае жыцьцё ў найлепшыя гады. Ён памёр у веку 38 гадоў. (Радзіўся 28 траўня 1881 г., памёр 20 жніўня 1919 г.) Гэтак асаблівыя ўмовы ягонай грамадзкай і заработнай працы, як і цяжкая хвароба, што мучыла яго праз 16 гадоў, не далі яму магчымасьці пераказаць у пісьме сваей багатай веды, але ён да гэтай працы ў жывым слове заахвоціў іншых і сяньня, 35 гадоў пазьней, беларуская навука ў галіне беларусаведы мае вялікія дасягненьні

Наагул трэба падчыркнуць, што сіла душы і ўздальненьні Івана Луцкевіча асабліва праяўляліся ў жывым слове. Ён, як ніхто іншы, умеў жар душы сваей, гарачую любоў да Бацькаўшчыны уліць у душы слухачоў.

Я ня памятаю, хто яшчэ зь Беларусаў (а чула я іх ад 1915—1941 г. у Вільні ня мала) мог гэтак захопліваюча і ў гэткіх прачулых словах перадаваць свае думкі і пачуцьці. І ўсе свае прамовы Іван Луцкавіч казаў экспронтам, ніколі ён не апрацоўваў іх. Калі ведаў, што яму трэба будзе выступаць з прамовай, ён толькі выбіраў сабе тэму, якую ўжо разьвіваў падчас самой прамовы. Асабліва мне ў памяць запалі словы, што ён казаў першаму выпуску Беларускіх Вучыцельскіх Курсаў у Вільні ў 1916 годзе. Ён пачаў славамі Мацея Бурачка (Багушэвіча): «Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі».

У гарачых словах ён выяўляў сваю любоў да роднай мовы. Яна зьяўляецца творам і праявай душы кажнага народу. У словах, вымове, інтанацыі праяўляецца характар данага народу. У роднай мове маці ўкладае калыханку свайму дзіцяці, у гэтай мове першыя словы ласкі і любові чуе дзіця ад маці; словы, якія гэтак моцна западаюць у душу, што потым мы іх з той-жа чуласьцяй і любасьцяй кажам дарагім нам людзям і неяк дзіўна-бы было нам казаць словы любові ў чужой нам мове, бо струны нашае душы не адклікаюцца на чужыя нам тоны. І тутака Іван Луцкевіч асабліва падчыркнуў, што ў мове беларускай, гэтак багатай у словы ласкі і пяшчоты, выступае асаблівасьць душы Беларуса: мець добрае сэрца і да сваіх і да чужых.

Бяда народу, які забывае сваю ці якому накідваюць чужую мову. Гэты народ траціць сам сябе, ён мусіць перастаўіцца ў псыхіцы сваёй і траціць дзеля гэтага сваё духовае аблічча, і з гэтым на даўгія гады траціцца здольнасьць да паэтыцкае творчасьці і выяўленьня сваіх духовых якасьцяў.

Але, дзякуй Богу, Беларусы ня страцілі свайго скарбу народнага, бо народ яго схаваў у глыбіні душы сваей і выяўляў ягоныя пэрлы ў песьнях, прыказках і казках. Не памаглі і спробы затруціць душы пагардай да роднай мовы, што з Богам нельга гаварыць у простай мове, і вучылі казаць Беларусам малітвы ў чужой ім мове. Із гэтага захаванага скарбу цяпер багата чэрпаюць — нашыя маладыя песьняры. Тут Іван Луцкевіч прыводзіў шмат вершаў новых беларускіх паэтаў і заклікаў вучыцялёў у моцных словах залажыць зярняты гэтага багацьця ў душы дзяцей, каб яны ўсё жыцьцё маглі захаваць ня толькі мову родную, а разам зь ёй сваё духовае багацьце і беларускае аблічча.

На жаль, я ня маю магчымасьці ўспомніць і пераказаць усе тыя словы, якія напаўняў Іван Луцкевіч жарам душы сваей, калі ёй прамаўляў. І кажная ягоная прамова, не залежна ад тэмы, казала аб ягонай любові да роднага краю і аб праве беларускага народу да новай лепшай долі. І слухачы глыбака адчувалі гэтыя словы, бо яны былі ад сэрца і ўзмоцненыя чынам, бо прамоўца ўсё складаў у вахвяру свайму народу: усю сваю працу, як і сваё асабістае шчасьце і жыцьцё.

І хоць Іван Луцкевіч ня будзе прамаўляць да будучых пакаленьняў Беларусаў у навуковых працах, ён будзе жыць у памяці, як іхні народны трыбун, які жарам сэрца свайго запаліў сьветач любові і ахвяры Бацькаўшчыне. І новыя пакаленьні Беларусаў перадаюць далей гэты сьветач адзін аднаму, каб ім сьвяціў на іх цярністым шляху ў вольную Бацькаўшчыну.

**Пісана ў красавіку ў Нюрнбэргу**
**Кветка Вітан**

# Купалаўская гадавіна ў Сыднэі

Сябры Беларускага Аб'еднаньня ў Сыднэі наладзілі дня 17 ліпеня жалобныя памінкі па нашым трагічна згінуўшым песьняру Янку Купалу. З прамовай выступіў др. Я. Малецкі, які вобразна схарактарызаваў ролю й гістарычнае значэньне Янкі Купалы ў нашым адраджэнскім руху. Прамоўца падчыркнуў, што Купала ад найранейшых сваіх гадоў выбраў для сябе заходняэўрапэйскі хрысьціянскі сьветапагляд і ніколі ня быў ачмучаны ілжывымі лёзунгамі маскоўска-камуністычнага дурману. Тут была прачытаная «Прамова» Янкі Купалы, сказаная ім у Менску 24. 6. 1920 года на сьвяткаваньні 15-цігадовага юбілею ягонае паэтычнае творчасьці, якая зрабіла на прысутных вялікае ўражаньне. Апісаньнем-успамінам, як наш пясьняр, сочаны сваім шофэрам-энкавэдыстым, наведваў у 1939 годзе Вільно і фактычна быў замкнутым у гатэлі «Жоржа», ды як не дапусьцілі да яго Беларусаў у Беластоку, была закончаная прамова.

Пасьля было адчытана й прадэклямавана некалькі характарыстычных вершаў Янкі Купалы. На заканчэньне ўсе прысутныя за супольным сталом падзяліліся чым хата багата. Бяседа была пераплятаная народнымі апавяданьнямі, у якіх вызначаліся спадары Качаны, Смаль і др. Малецкі. На разьвітаньне старшыня Беларускага Аб'еднаньня ў Новай Паўдзённай Валіі сп. К. Сіткоўскі горача дзякаваў усім прысутным за ўдзел у памінках і асабліва падзякаваў прадстаўніком Нью-Касэльскіх і Брысбэйнскіх Беларусаў, якія прыбылі да нас на гэтую ўрачыстасьць. Старшыня запрапанаваў пераслаць словы прызнаньня для нашых суродзічаў, якія вядуць беларускі аддзел радыя «Вызваленьня», што ўсімі было аднагалосна прынята.

**М.**

**ЯЕ МІЛАСЬЦІ**
**СТАРШЫНІ БЕЛАРУСКІХ**
**АБ'ЕДНАНЬНЯЎ У АЎСТРАЛІІ**
**СПАДАРЫНІ А. КАРАНЕЎСКАЙ.**

Сябры Беларускага Аб'еднаньня ў Новай Паўдзённай Валіі, сабраўшыся на жалобную акадэмію з прычыны 12-ай гадавіны трагічнай сьмерці нашага песьняра Янкі Купалы, за Вашым пасярэдніцтвам перасылаюць наступнае:

Беларусы Аўстраліі шчыра вітаюць зарганізаваньне Беларускага Аддзелу пры Радыястанцыі «Вызваленьне» ў Мюнхэне і складаюць сваё гарачае прывітаньне й прызнаньне для Кіраўніцтва гэтага Аддзелу ў васобах Спадароў Тэрпака, др. Жука, праф. Ліманоўскага, мастака Сыча, Кабыша і іншых, што прычыняюцца да беларускіх радыяперадачаў. Мы спадзяёмся, што новая пляцоўка будзе непахісна служыць справе разгрому камуністычнай тыраніі. Паўтара году таму назад нашая арганізацыя зварочвалася да Спадара Прэзыдэнта М. Абрамчыка ў справе беларускіх перадачаў праз радыё і сяньня мы маем ужо частковыя рэзультаты.

Дык працуйце, Браты, з Богам! Мы з Вамі!

Жыве Беларусь!

| | |
|---|---|
| **К. Сіткоўскі** | **М. Лузынскі** |
| Старшыня | Сакратар |

**ШУКАЮЦЬ**

**Брата Сяргея Кузьміна**, які пражываў у Полацку і выехаў у 1944 г. у Рыгу — шукае сястра Тацьцяна Кузьміна. Весткі слаць на адрас Згуртаваньня Беларусаў у Аргентыне.

## Нашыя Прадстаўніцтвы

**Ангельшчына:**
**Mr. Aleksander Lašuk,** 97 Moore Park Road, London S. W. 6.

**Бэльгія:**
**Zora Savionak,** 19, Place Hoover, Louvain.

**Данія:**
**J. Lobejko** c/o H. C. Jensen, Leifsgade 6 III tv. Kobenhavn S.

**Францыя:**
Section Bielorussiene de **C.F.T.C.** 26, Rue de Montholon, **Paris 9.**
b) **Bonifacy Prytycki,** 17, rue Roger Salengro Lys les Lannoy (Nord).

**Швэцыя:**
**Basil Lukaszyk** c/o Hammer Ringvagen N. 123/III, Stockholm.

**Аргентына:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina.** Calle Coronel Sayos 2981, 4 de Junio, Prov. Buenos Aires.

**Аўстралія:**
**Mr. Donat Jackievič,** 60 Fisher St., East Brisbane, Q-ld.
Mr. M. Palashuk, 17 Sparks Ave, Fairfield, Vict., Australia.
c) **Mr. Jan Čarneckj,** 306, Sandgate Rd., Shortland, N.S.W.
d) **Filip Dareuski, 18 Vindsor St., East Perth, W. A. Australia.**

**Бразылія:**
**Carlos Cimafejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba - Parana.

**Канада:**
Mr. W. Bielmach, 3518 de Bullion St., Montreal, Q. Canada.

**ЗША:**
a) **Mr. B. Danilovich,** 222 Suydam St., New Brunswick, N. J.
b) **Mr. M. Serdeczenko,** 7851 Sherwood Ave, Detroit 11, Mich.
c) **Mr. V. Duniec,** 2502 W. 7. St., Cleveland, Ohio.
d) **Mr. E. Budzka,** 2042 W. St. Paul Ave Chicago 47, Illinois

**Новая Зэляндыя:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88, Hercules Drayve, Roxburg-Hydro.

**З гэтых Прадстаўніцтваў просім у паасобных краінах выпісваць «Бацькаўшчыну» й на іх адрас перасылаць за яе належнасьць.**